Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош; за 1 месяц — 30 грош.

№ 20 (72) | Вільня, 23-га жніўня 1935 г. | Год 3-ці.

## Аб выбарах у Сойм.

Першая частка „выбараў" у польскі Сойм закончана, — 14 гэтага месяца прадвыбарныя сабраньні вызначылі кандыдатаў у паслы па ўсіх 104 выбарных акругох. Перагледаючы сьпіскі кандыдатаў у паслы з беларускіх этнаграфічных земляў не знаходзім там ані воднага кандыдата-Беларуса.

Дня 8 верасьня г. г. адбудзецца апошні акт: агульным галасаваньнем будуць выбраны паслы з пасярод вызначаных ужо кандыдатаў. Паўстае цяпер пытаньне, над якім разважае і польская прэса, гэта пытаньне ўдзелу насельніцтва ў надыходзячых выбарах. Ці шырокія масы грамадзянства пойдуць на выбары, ці іх збайкатуюць?

Думаем, што да гэтае справы кожны грамадзянін аднясецца паважна і сумленна, разважыўшы над тым, ці вызначаныя кандыдаты даюць пэўнасьць сумленнае абароны правоў сваіх выбаршчыкаў.

Разгледзім дзеля гэтага зусім бесстаронна, якія абавязкі мае **народнае прадстаўніцтва** ў парляманце.

Ведама, што да абавязкаў кожнага народнага прадстаўніка належыць перадусім дбаць аб дабро ўсіх грамадзян, а гэтым самым і ўсяе Дзяржавы. Дабро-ж гэтае дасягаецца:

1) належнай абаронай палітычных правоў народу,

2) яго правоў культурна-нацыянальных і

3) яго эканамічна-гаспадарчых інтарэсаў.

Абарона палітычных правоў залежыць, зразумела, ад таго ці іншага палітычнага кірунку, тае ці іншае соцыяльнае групы, гэта знача, народны прадстаўнік можа быць староннікам монархізму ці дэмократызму, або соцыялістычнага ладу ў Дзяржаве; можа рэпрэзэнтаваць інтарэсы ці то абшарніка і прамыслоўца, ці то селяніна і работніка ды працоўнага інтэлігента.

Абарона культурна-нацыянальных правоў зьвязана з прыналежнасьцяй народнага прадстаўніка да тае ці іншае нацыі, — таго ці іншага народу. Але каб нешта шчыра і пераконваюча бараніць, трэба прынамсі тое добра ведаць, мала таго, трэба на сабе адчуваць балючыя патрэбы свайго народу. Найлепшыя прыяцелі Палякоў, прыкл., не маглі бараніць культурна-нацыянальныя правы польскага народу так, як гэта рабілі самі Палякі. Найлепшы зноў-жа Паляк ня зможа бараніць культурна-нацыянальныя патрэбы Беларусоў так, як гэта зробяць сьведамы Беларус, які шчыра працуе на карысьць свайго народу, ды якому сапраўды ўсё сваё дорага.

Урэшце абарона эканамічна-гаспадарчых інтарэсаў зноўжа зьвязвае народнага прадстаўніка з тою ці іншаю грамадзкаю групаю, бо-ж гаспадарчы інтарэс прамыслоўца ці абшарніка зусім іншы, чымсь фабрычнага работніка ці селяніна.

Ці з пасярод вызначаных 14-га жніўня г. г. кандыдатаў у паслы ёсьць адпаведныя для выбаршчыка-Беларуса — вось пытаньне, ад каторага залежаць тыя ці іншыя адносіны нашага грамадзянства да выбараў, ды на каторае хай адкажуць перадусім тыя Беларусы (калі яны ёсьць), каторыя гэтых кандыдатаў выбіралі, а разам з тым хай зложаць публічныя дэклярацыі па гэтым пытаньням і вызначаныя кандыдаты ў паслы з беларускіх этнаграфічных земляў.

Толькі пасьля выясьненьня парушаных намі пытаньняў будзе відаць выбаршчыкам, каго варта выбіраць.

## Італа-Абісінскі конфлікт.

Ад пачатку бягучага месяца Рада Лігі Народаў кумячыла справу італьянска-абісінскага конфлікту, ня могучы знайсьці гэткага рашэньня, якое паладзіла-б абедзьве зацікаўленыя староны і ўхіліла-б пагрозу вайны. Ваяўнічасьць італьянскага дыктатара Бэніто Мусоліні пераходзіць усякія межы. Ніякія уступкі з боку Абісініі яго не задавальняюць. Ен імкнецца проста да окупацыі абісінскае тэрыторыі хоць-бы проста так дзеля выказаньня ўсяму сьвету італьянскае павагі і магутнасьці, а затым да устанаўленьня італьянскага пратэктарату над цэлаю Абісініяй.

Справа ліквідацыі італа-абісінскага конфлікту апынулася нарэшце ў палавіне бяг. жніўня месяца ў руках парыскае конфэрэнцыі трох дзяржаваў: Францыі, Англіі і Італіі. На чале французскае дэлегацыі стаў сам прэм'ерміністар Лаваль, англійскае—лёрд Ідэн і італьянскае — Алёізі. У той самы час у Парыж прыехала абісінская дэлегацыя, якая заявіла Лявалю, што Абісінія замервацца бараніць сваю незалежнасьць усімі даступнымі ёй спосабамі і што яна ня можа прыняць над сабою ніякага мандату або кантролю.

Гэта конфэрэнцыя трох дзяржаваў апынулася перад вельмі труднаю задачаю: не дапусьціць да італа-абісінскае вайны. Муссоліні, як пішуць газэты, усяляк адцягваў тое ці іншае рашэньне конфэрэнцыі, каб выйграць час на большую падрыхтоўку да збройнага выступленьня. Пазыцыі варожых старон настолькі разыходзяцца, што паладзіць іх блізка што й немагчыма. Паводле слоў газэты „Pari Midi", Італія дамагаецца абярнуць Абісінію ў васальную (залежную ад яе) краіну і далучыць да італьянскіх земляў у Афрыцы гэткага кускі абісінскае тэрыторыі, які злучыў-бы абедзьве італьянскія калёніі: Эрытрэю і Сомалі. Тымчасам Англія ня хоча нават і разважаць над падобнымі дамаганьнямі, заяўляючы, што ў Абісініі Італія можа мець палёгкі эканамічнага характару.

Калі французская і англійская дэлегацыі разам апрацавалі рэзалюцыю аб ліквідацыі конфлікту паміж Італіяй і Абісініяй і падалі яе на разгляд італьянскага дэлегата барона Алёізі, дык той заявіў, што ён ня мае поўнамоцтваў прымаць адказныя рашэньні і дзеля гэтага можа толькі пасласць французска-англійскую рэзалюцыю да ведама італьянскаму ўраду. Англійская дэлегацыя асабліва дамагалася італьянскага адказу на гэткія два пункты: 1) якімі зьяўляюцца мінімальныя гарантыі, каторых хоча Італія дзеля забясьпечаньня сваіх калёніяў Сомалі і Эрытрэі? і 2) якіх гарантыяў хоча Італія дзеля запэўненьня бясьпечнасьці сваіх грамадзян у Абісініі? Інструкцыі, якія атрымаў барон Алёізі з Рыму, не зьяўляліся прынцыповым адказам на франка-англійскую рэзалюцыю — Муссоліні далей падтрымліваў свае дамаганьне расьцягнуць італьянскі пратэктарат на ўсю Абісінію.

Гэткім чынам конфэрэнцыя трох дзяржаваў правалілася, аб чым 19 жніўня с. г. у Лёндане апублікованы быў сухі офіцыяльны камунікат, што конфэрэнцыя гэта „не магла знайсьці асновы дзеля абгавораньня пытаньня, якая забясьпечыла-б ... мірнае вырашэньне конфлікту. Труднасьці, паўстаўшыя пры разглядзе прапазыцыяў, высунутых на конфэрэнцыі 3-х дзяржаваў, зрабілі неабходнай адсрочку далейшага абгавараньня, якое будзе прадоўжвацца дыпляматычным шляхам".

Пакуль дыплёматы зьбіраюцца і далей гаварыць, а Мусоліні робіць перагляды сваіх дывізіяў „чорных сарочак", падбадзёрваючы іх ваяўнічымі прамовамі. Гэтыя прамовы італьянскага дыктатара выклікаюць усюды вялікую трывогу, а некаторыя з англійскіх палітычных дзеячоў даволі выразна выступаюць у газэтах з заявамі, што італьянскі напад на Абісінію можа пацягнуць за сабою новую сусьветную вайну.

У дэклярацыі, паданай заграмнічнай прэсе ў Парыжы, італьянскі дэлегат барон Алёізі, паміж іншым, заявіў аб зусім лёкальным (мясцовым) характары італа-абісінскага конфлікту і што калі-б нават дайшло да яго збройнага вырашэньня, дык палітыка Італіі ў Эўропе нязьменна застанецца мірнай; бар. Алёізі сказаў таксама, што Італія мае ў Сомалі і Эрытрэі 200.000 жаўнераў проці 450.000 абісінцаў.

## „Кішанковыя" падводныя лодкі

„Дэйлі Гэральд" піша, што нямецкія марскія ўлады шукаюць людзей, жадаючых кіраваць „*самабойчымі лодкамі*" нямецкага флёту. Гутарка ідзе аб новым тыпе лодак, увядзеньне каторых можа зрабіць пераварот у марской вайне.

Марскія колы Нямеччыны ўважаюць, што маленькія параходзікі — падводныя лодкі давядуць да таго, што дзяржавы адмовяцца ад вялікіх параходаў. Праведзеныя сэкрэтна досьледы далі, быццам, самыя найлепшыя вынікі. Лодкі гэтыя маюць ня болей 20 мэтраў даўжыні, ня маюць машташу, а над вадой тырчыць толькі невялікая трубка. Параходзікі гэтыя могуць разьвіць скорасьць 40 вузлоў у гадзіну. Абслуга — 3—4 чалавека. Такія падводныя лодкі будуць прадстаўляць сабою трудную цэль для артылерыі марскіх гігантаў, якія яны заатакуюць мінамі з вельмі блізкай адлегласьці.

Пасьля выпушчэньня мінаў „кішанковыя падводныя лодкі", адзначаючыяся надзвычайнай ходкасьцю, лоўка схаваюцца ад прасьледуючага іх праціўніка.

Марскія ўлады, аднак, прызнаюць, што калі ў такую падводную лодку пападзе артылерыйскі набой — яна адразу пойдзе на дно. Дзеля гэтага яны і называюцца „самабойчымі".

## Здрада італьянскіх сомалійцаў.

Абісінскі корэспондэнт нямецкага інформацыйнага бюра паведамляе, што за апошнія месяцы на старану Абісініі перайшло каля 10.000 чалавек з пражываючых на абшары італьянскіх калёніяў Эрытрэі і Сомаліі. Часьць з іх была раней завербавана італьянцамі ў свае вайска і цяпер перайшла ў Абісінію разам з выданым ім аружжам і конямі.

Таксама паведамляюць з Югаславіі, што за апошнія дні лічба дэзэртыраў з высыланых у ўсходнюю Афрыку італьянскіх часьцяў дасягнула некалькіх тысячаў. Ня даўна за адзін дзень італьянска-югаслаўянскую граніцу перайшло 200 чалавек. Многія дэзэртыры прабуюць перайсьці таксама італьянска-аўстрыяцкую граніцу.

## Муссоліні працягвае руку Гітлеру.

Венскія газэты цьвердзяць, што Муссоліні мае намер у бліжэйшым часе запрапанаваць Нямеччыне заключыць дагавор аб ненападаньні на 10 гадоў. Гэтым дагаворам Італія жадае забясьпечыць сабе тылы.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

## Калі пачнецца вайна?

Уся нямецкая прэса прысьвячае артыкулы стратэгічным плянам Італіі.

Ваенныя дзеяньні, пішуць гэтыя газэты, Італія намерана пачаць 15 верасьня, г. зн. зараз-жа пасьля сканчэньня пэрыяду дажджоў. Уся Абісінія павінна быць занята італьянскімі вайскамі ў працягу першых шасьці тыдняў, сталіца-ж Адзіс-Абэба праз тры месяцы пасьля пачатку вайны.

Нямецкая прэса зварочвае ўвагу на небясьпеку, якая пагражае прэстыжу Італіі ў тым прыпадку, калі абісінскі паход ня ўдасца.

Нямецкія газэты сыпматызуюць з Англіяй і нездаволены агрэсыўнасьцяй Італіі.

Прычынай гэтага незадаваленьня зьяўляецца наступнае: дзякуючы таму, што Італія ўсе цэла занята абаронай сваіх інтэрэсаў у Афрыцы, яе роля ў наддунайскім пытаньні перайшла да Францыі і гэта моцна комплікуе палітыку Нямеччыны на эўрапэйскім форуме.

## Забурэньні ў Францыі.

Новы францускі ўрад з мэтай зьмяншэньня дэфіцыту ў дзяржаўным бюджэце выдаў распараджэньне аб абніжцы платы пэўным групам урадоўцаў і рабочых. Гэта выклікала пратэст з боку пакрыўджаных, якія выступілі з дэманстрацыямі, а ў прыморскіх гарадох Брэсьце ды Тулоне дайшло да вулічных баёў паміж рабочымі з аднаго боку і паліцыяй ды войскам з другога. Рабочыя наскора пабудавалі на вуліцах барыкады, якія паліцыя і войска мусілі браць штурмам, пры гэтым часамі даходзіла да фармальнага бою. Забурэньні трывалі 5-га і 6-га г.м., у часе якіх у Брэсьце забіты 1 рабочы і звыш 100 чалавек ранена, а ў Тулоне забіта 2 і ранена некалькі дзесяткаў робочых і 66 паліцыянтаў ды вайсковых.

Дзеля салідарнасьці адбыліся рабочыя дэманстрацыі і ў іншых прыморскіх гарадох Францыі: у Шэрбургу, у Лорыяньне, у Гаўру. Францускі ўрад віну за забурэньні складае на камуністаў, газэты-ж левага напрамку абвінавачваюць мясцовыя ўлады, якія сваёй нетактоўнасьцяй выклікалі забурэньні.

Між іншым гэныя забурэньні прычыніліся да ахалоджаньня адносінаў між урадамі францускім і савецкім, у якіх яшчэ так нядаўна была вялікая дружба.

## Украінскі народны кангрэс.

У канцы жніўня г. г. адбудзецца ў Парыжу ўкраінскі народны кангрэс. У кангрэсе прымуць учасьце прадстаўнікі ўкраінскіх легальных партыяў з Польшчы, а іменна прадстаўнікі Унда, Украінскай Соцыялістычнай Радыкальнай Партыі, Украінскай Народнай Абновы і Украінскай Соцыял-Дэмакратычнай Партыі; з заграніЧных партыяў: прадстаўнікі Радыкальна-Дэмакратычнай Партыі, Партыі Соцыялістаў Рэволюцыянэраў, Соцыял-Дэмакратычнай Работніцкай Партыі і Украінскай Народнай Партыі з Букавіны. Далей у Кангрэсе прымуць ўдзел паслы і сэнатары тых украінскіх партыяў, якія маюць сваіх прадстанікоў у парлямэнтах паасобных краёў, сябры б. Украінскай Цэнтральнай Рады, сябры б. Народнай Рады ў Станіславе, а таксама прадстаўнікі ад розных галінаў украінскага жыцьця (арганізацыяў гаспадарчых, культурных, земляробскіх і г. д.).

Апрача таго ў кангрэсе прымуць удзел акром палітычных партыяў і прадстаўнікі паасобных краёў, у якіх украінцы жывуць масава, як: Чырвоная Русь, Валынь, Чэхаславаччына, Румынія, Бразылія, Аргэнтына, Францыя, Югаславія, Канада, Злучаныя Штаты, Манджурыя.

На кангрэсе будуць разгледжаны спосабы абароны правоў і інтарэсаў украінцаў ва ўсіх краёх дзе толькі ўкраінцы жывуць масава, адначасна з тым кангрэс дасьць магчымасьць, па думцы арганізатараў кангрэсу, пэўнага паразуменьня паміж паасобнымі партыямі ды арганізацыямі, а гэта аблягчыць неабходны контакт усіх украінскіх арганізацыяў.

Ня прымуць учасьця ў кангрэсе прадстаўнікі Фронту Нацыянальнай Еднасьці (Паліева), Украінскага Саюзу Хлебаробаў (Скорападскага), а таксама прадстаўнікі Украінскай Вайсковай Арганізацыі, на чале якой стаіць палкоўнік Канавалец. Апошні выступае супроць тых партыяў, якія арганізуюць кангрэс.

Канавалец намерваецца зарганізаваць зьезд у Новым-Ёрку з прадстаўнікоў радыкальных баявых украінскіх арганізацыяў.

Супроць кангрэсу выступае і бальшавіцкая прэса, якая бачыць у кангрэсе пробу стварэньня аружнай інтэрвэнцыі супроць Саветаў.

## Гітлер проціў... гітлероўскай партыі.

Бэрлінскія корэспондэнты парыжскіх газэтаў паведамляюць, што нядаўна ў офіцыёзе нямецкага фронту працы „Арбайтэртум“ ген. фон Райхенаў, начальнік дэпартамэнту ваеннай паліцыі райхсвэру, надрукаваў артыкул аб узаемнаадносінах між арміяй і нацыянал-соцыялістычным рэжымам.

Новыя ваарўжоныя сілы райху,—піша аўтар артыкулу,— зьяўляюцца творам Гітлера. Армія, дзеля гэтага, цесна зьвязана з новым рэжымам і павінна быць нацыянал-соцыялістычнай. Заданьне арміі зводзіцца ня толькі да ваеннай падгатоўкі новага пакаленьня, але і да стварэньня нацыянал-соцыялістычнага салдата.

Паводле слоў корэспондэнтаў артыкул гэты выклікаў энэргічныя пратэсты са стараны тых генэралаў Райсхвэру, каторыя ўважаюць, што нямецкая армія павінна быць аполітычная. Найбольш рэзка на генэрала фон Райхенаў напаў ген. Фрытчэ, катораму ў канцы канцоў удалося дабіцца адстаўкі фон Райхенаў, дзякуючы таму, што сяньня поўная ўлада над нямецкай арміяй належыць да ген. Блёмбэрга, які таксама ўважае, што армія ня можа займацца палітыкай. Але Блёмбэрг ідзе далей, уважаючы, што *Гітлер не назаўсёды зьвязаны з гітлерызмам*. Дзеля гэтага, магчыма, што ў прыпадку патрэбы *нямецкая армія выступіць у абарону дзяржавы разам з Гітлерам*, а не з нацыянал-соцыялістычнай партыяй. Гэта зьяўляецца для „нацы“ грознай перасьцярогай.

## Тэстамэнт Гіндэнбурга.

У Вене цьвердзяць, што арыгінальны тэстамэнт Гіндэнбурга знаходзіцца ў сучасны момант у б. кайзэра Вільгельма. У тэстамэнце, быццам, гаворыцца, што Гітлер забавязаўся ўстанавіць у дзяржаве парадак і падгатовіць рэстаўрацыю Гогенцольлнэраў.

## Засуха ў Вэнгрыі.

У Вэнгрыі трывае даўжэйшы час вялікая засуха, якой ня было некалькі дзесяткаў гадоў. Такая засуха нарабіла шмат шкоды земляробам—вада ў студнях павысыхала, збажовыя расьліны належна не разьвіліся і з гэтае прычыны ўраджай на палову зьменшыцца.

## Прадажа білетаў на... луну.

У Будапешт, як паведамляюць францускія газэты, прыехаў інжынер Рональд Вінстон, асыстэнт ведамага амэрыканскага конструктара ракетаў, праф. Годарда.

Інж. Рональд Вінстон пасьля прыезду прыняў супрацоўнікаў будапештскіх газэтаў. У гутарцы з імі зрабіў Вінстон сэнсацыйнае заяўленьне аб прыгатаўляючымся пробным палёце на луну.

Палёт гэты ў ракеце, паводле слоў Вінстона, адбудзецца яшчэ ў сёлеташнім годзе. Сама ракета ўжо зусім гатова для палёту. Пабудована яна ў Амэрыцы. Толькі ў гэтым краі і можна было знайсьці сродкаў, неабходных для сфінансаваньня так рызыкоўнага „прадпрыемства“. Падрабязнасьці конструкцыі ракеты, маючай у даўжыню 15 мэтраў, трымаюцца пакуль што ў тайне.

Дагэтуль ня зусім выясьнена яшчэ пытаньне, ці справіцца чалавечы арганізм з шалёнай скорасьцю ракеты. Адразу-жа са старту ракета разаўе скорасьць у 11.800 мэтраў у сэкунду, так што ў першую гадзіну пакрые яна адлегласьць у 40 000 кілёмэтраў.

Апушчэньне на луне, па думцы Рональда Вінстона, ня выкліча ніякіх труднасьцяй, дзякуючы асобым прыладам, пабудаваным у ракеце для гэтай мэты.

Праф. Годард, паводле слоў Вінстона, акрэсьліў ужо нават географічнае месца будучага спуску ракеты на луну. Гэтае месца знаходзіцца ў беспасярэдняй блізкасьці з „кратэрам Копэрніка“.

У канцы сваёй гутаркі, інжынер Вінстон заявіў, што да праф. Годарда зьвярнулася ўжо болей 40 багатых амэрыканцаў, жадаючых за вялікія грошы купіць „білет на луну”.

## Адзежа са шклом і гумай.

Дзешавейшыя сарты матар'ялу на адзежу, як ведама, у носцы вельмі хутка трацяць сваю гладкасьць, корчуцца. Каб даць такім сартам матар'ялу большую элястычнасьць, гібкасьць, тэхнікі дадумаліся, што такую элястычнасьць можна атрымаць дадаваньнем у тканіну зусім тонкіх гумовых, або вельмі тонкіх шкляных нітачак. Акром таго, адзежа з матар'ялу са шклянымі нітачкакі добра дзеіць супроць цяплыні — ў гарачыню ахаладжвае, а ў холад бяражэ ад сьцюжы.

# Дзяўчына.

*(Расказ безработнага).*

I.

Аўген Ваўчыцкі быў добры кампан. Тры няшчасныя гады мы штомесяц рэестраваліся з ім у бюры безрабоцьця, дзе калісь, стоячы разам у чарзе, і пазнаёміліся. Ужо з год таму будзе, як яго няма — налажыў, небарака, на сябе рукі, ня вытрываў. А было неяк раз, што ў гарачы летні дзень, адштэмпляваўшы свае легітымацыі, мы пайшлі купацца ў Віленцы, пасьля забраліся ў лясок на Бэльмонце і доўга пяклі на сонцы свае, нікому непатрэбныя, худыя целы, лежачы ў густых кустох.

— Так, браце, не ўдалося нашае жыцьцё! — пачаў разважаць Ваўчыцкі. —А калісь было гэтулькі парываў...

— Плюнь!—перабіваю я,—лягчэй будзе. У жыцьці ёсьць шмат прыгожага...

— Якраз столькі, колькі ў парожнім жываце! — адгрызаецца Ваўчыцкі.

— У жываце наагул мала цікавага,—зьбіваю я, — парожні ён, ці поўны. Вось паглядзі на гэтае сонца: якое яно ласкавае, шчодрае, роўнае і мілае для ўсіх!

— Поэт! — востра зазначае Аўген.

Ён даўно ведае, што я крыху поэт, нават рэдактарам некалі быў, люблю пісаць.

— Глядзі, каршун шукае ахвяры, — паказвае ўгару Ваўчыцкі. —А можа яму здаецца, што мы ўжо трупы?

— Трупы, але грамадзкія, соцыяльныя трупы, — сьмяюся я ў адказ.

А затым, лежачы дагары вачыма і ловячы імі раскошны лёт каршуна, які высока круціўся над намі, пачынаю голасна імправізаваць пабеларуску „Буравесьнік“, стараючыся з памяці перакладаць гэты вялікі твор Горкага:

„Вось ён лётае, як дэмон, — горды, чорны дэмон буры, — і сьмяецца ён і плача... Гэта з хмараў ён сьмяецца, гэта з радасьці ён плача. У гневе грому,—чуткі дэмон, — ён даўно ўжо змогу чуе, ён так пэўны, што ня ўтояць хмары сонца,—не ня ўтояць. Вецер вые... Гром грукоча“...

Затрымліваюся. Ваўчыцкі пацягнуў мяне ўгару за чуб рукою і сказаў:

— А даволі спрытна гэта ў цябе выходзіць пабеларуску!

— Усё можа пабеларуску выйсьці спрытна, ты што думаў? — кажу яму.

— Ты й ня ведаеш, што я таксама прабаваў пісаць пабеларуску,—неяк ажыў духам Ваўчыцкі. — Есьць, кажа, ў мяне ня то расказ, ня то ўспамін з маладых гадоў — голая праўда. Ня ведаю, ці варта было-б друкаваць дый няма дзе ў нас...

— Хацеў-бы паглядзець,— перарываю яго.

— Давай, заўтра ізноў прыдзем сюды пячыся і я табе прачытаю, што напісаў, — прапануе Аўген.

— Добра!—згаджаюся я.

Назаўтра ў тое самае месца Ваўчыцкі прынёс невялічкі сшыток, на вокладцы якога прыгожымі літарамі было напісана: „*Дзяўчына*“.

Мы распрануліся, выставілі на сонца голыя плечы і Ваўчыцкі пачаў чытаць, час ад часу пераварочваючыся з боку на бок.

— Ну слухай, толькі не перабівай!—пачаў ён:

II.

„На абодвух бакох магутнага быстраводнага Нёмна і па сяньняшні дзень стаіць старадаўны наш Дзеньгорад.

Нашто апісваць яго?

Ці знойдзецца пяро, якое зможа апісаць усе чары гораду, ў каторым чалавеку суджана было пражыць некалькі юнацкіх гадоў сваіх? Пражыць так, як жылося калісь, адцьвісьці буйным цьветам першага каханьня, перагарэць у полымі гарачых надзеяў, з вачыма, сьмела ўтаропленымі ў будучыню, з гордаю сьведамасьцю таго, што не дарма прыйшоў на белы сьвет ты — чалавек! Любіць сьвет і жадаць бачыць яго яшчэ лепшым!

У тыя маладыя, беспаваротна мінулыя, гады, жывучы ў Дзеньгорадзе, знаў я адну дзяўчыну. Звычайная, здавалася-б сабе, бедная дзяўчына—„жанчына працы“ А колькі салодкіх успамінаў запала мне ў самае дно душы ад маіх-ня вельмі частых, сустрэчаў з ёю, Успамінаў брылянцістых, як раса! траўнёвых лугоў, расьсеяная па іх шчодраю сілаю прыроды ў часе халоднага, яснага раньня, успамінаў чыстых, як чыстаю была гэтая дзяўчына, як мае адносіны з ёю.

О, пра гэта варта пісаць!

Нізенькая, прысадзістая, неяк непрапарцыянальна шырокая ў бёдрах, чарнявая, з зусім няпрыгожымі піўнымі вачыма, з пухленькімі шчочкамі і строга зарысаванымі бровамі, яна, ў часе лёгкіх усьмешак сваіх, толькі вельмі і вельмі слаба прыпамінала мне чароўны абраз Джыоконды. Не яна была об'ектам майго першага, нямінучага, здаецца, ў жыцьці кожнага чалавека, юнацкага каханьня. Гэтае гарачае, як пекла, пачуць-

# Гаспадарчы аддзел.

## Як дабіцца добрай якасьці льнянога валакна?

Пануючыя ў нас глебавыя і кліматычныя ўмовы досыць спрыяюць культываваньню лёну. Нашае льнярства, калі-б яно было пастаўлена на адпаведную вышыню, магло-б стаць аднэй з найгалаўнейшых галінаў вытвору нашае вёскі. Лён перад тым, як яго можна адправіць на рынак, патрабуе каля сябе шмат працы і гэтая праца ў адпаведных умовах добра аплачваецца. Ніводная гаспадарчая расьліна ў нас ня можа даць такога валавога даходу як лён, калі яго валакно добра апрацована. Аднак гэты даход пры цяперашнім спосабе абробкі вельмі нізкі. Прычына гэтага зьявішча галоўным чынам палягае ў тым, што льнянае валакно ў нас, дзякуючы дрэннай апрацоўцы, — кепскае.

Далей так быць не павінна. Селянін наш не павінен выракацца тае крыніцы даходаў, якую можа даць разумна пастаўленае льнярства.

Галоўнымі прычынамі, дзякуючы каторым паніжаецца якасьць нашага льнянога валакна, зьяўляюцца: папершае кепскае мачэньне лёну, а пасьля дрэннае сушэньне, церце, трапаньне і часаньне.

Каб атрымаць добрае валакно, трэба рваць лён, калі ён пажаўцее, ніжнія лісточкі ападуць, а насеньне пачне гнеднуць. За рана вырваны лён дае валакно далікатнае і ценкае, але ня моцнае. Калі-ж лён перастаіць, то атрымаем валакно грубое і меней гібкае. Вырваны лён у працягу 5—8 дзён сушыцца на полі састаўлены у ценкіх вязках, або, калі пагода добрая,—разосланы. З высушанага льну вымалочваецца насеньне, а сам лён падаецца далейшай апрацоўцы, якой першым дзеяньнем зьяўляецца мачэньне. Дзеля таго, што пры выкананьню гэтае працы нашыя сяляне робяць найболей памылак, мы разгледзім яе зараз па магчымасьці шырэй.

*Мачэньне льну.* Лён мочаць або вадою (лён мачэнец), або расою (лён сланец). Абодва гэтыя способы адрозьніваюцца адзін ад другога тым, што ў першым прыпадку мачэньне адбываецца аднэю толькі вадою, а ў другім, апрача мачэньня расою і дажджом, на лён дзеець сонца і паветра. Часам абодва гэтыя способы злучаюцца ў адзін: спачатку некаторы час лён мочыцца, а пасьля сьцеліцца, каб рошаньнем працэс мачэньня дакончыць.

*Мачэньне вадою.* Мачэньне гэтае робіцца ў праточнай ці стаячай вадзе. З гэтай мэтай робяць мачыла ў рэчках, вазёрах, або і ў спэцыяльна выкапаных ямах. Для добрага мачэньня льну вымагаецца, каб была сьветлая, чыстая і мягкая вада. Толькі у такой вадзе можна атрымаць добрае, шаўкавістае валакно з шэраватым адценкам. Тэмпэратура вады пры мачэньні не павінна быць ніжэй 15 градусаў Цэльсія. Пры такой тэмпэратуры добра дзеюць пэўныя бактэрыі, якія раскладаюць расьлінны клей, каторым злучана валакно льну з древясінай (кастрыцай).

Калі прыходзіцца для мачыла капаць яму, то трэба пастарацца, каб яна была выкапана ў адпаведным месцы. Якасьць грунту, у каторым капаецца мачыла, робіць вялікі ўплыў на валакно. Месца іржавыя не гадзяцца для мачыла. Таксама няпрыгодныя чырвоная гліна і чырвоны пясок. Найболей падхадзячай глебай для гэтай мэты ёсьць чарназём, а таксама балоты з дном (падглеб'ем) з белае або сіняе гліны і наплыўныя грунты.

Глыбіня мачыла павінна быць ня болей $1^1/_2$ метра (двух аршынаў) дзеля таго, што пры большай глыбіні ў льне адбываецца неаднолькавае бражэньне: верхнія пласты льну ў цёплую пару хутчэй становяцца гатовымі чым споднія, а ў халодную пару — наадварот.

Перад мачэньчем лён трэба рассартаваць паводле грубасьці і даўжыні сьцеблаў, бо грубыя сьцяблы павінны мокнуць даўжэй, чым ценькія. Калі дно мачыла чыстае, то да яго лён кідаюць проста без падсьцілкі, прыціскаючы шчыльна адзін сноп да другога; калі-ж дно балоцістае, зямлістае, то трэба спачатку палажыць на дно пласт гальля з саломаю. Снапы кладуцца ў мачыла радамі, адзін за другім. Калі мачыла наложана, тады паверх снапоў кладуць жэрдкі, а на іх цяжар у такой колькасці, каб лён увесь апынуўся ў вадзе.

Пасьля двух-трох дзён, у залежнасьці ад тэмпэратуры вады і якасьці валакна, у намочаным льне адбываецца бражэньне, якое пазнаем па зьяўляючыхся на паверхні вады пузырках; апрача таго, лён пучыцца і падымаецца наверх. У астатнім выпадку трэба прыбаўляць цяжару столькі, каб лён ізноў схаваўся ў вадзе. Час, які патрабуецца для мачэньня льну, бывае розны: ад шасьці да дзесяці дзён і болей, у залежнасьці ад якасьці і тэмпэратуры вады; у стаячай і цёплай вадзе лён вымакае хутчэй. Як толькі бражэньне льну ўсіліцца, трэба пільна сачыць за ім і выняць з вады ў адпаведны час, бо бывае досыць аднае толькі лішняе ночы, каб лён перамок, ці наадварот. Звычайна на пяты або шосты дзень лён прабуюць.

Належна вымачаны лён можна пазнаць па наступным прыметам: льняныя вязкі пры датыку выдаюцца мягкімі і сьлізкімі; апрача таго, з розных месц выцягваюцца сьцяблы і робіцца на іх проба, ці валакно лёгка аддзяляецца ак кастрыцы, ці не.

Можна таксама рабіць пробу з валакном. Калі валакно кінутае ў ваду тоне шыбка, то гэта азначае, што лён вымачаны; калі-ж лён недамочаны, то валакно тоне ў вадзе паволі.

Асаблівае ўвагі пры мачэньні вымагае лён заражаны іржою. У такім выпадку спыніць мачэньне трэба якраз у той час, калі валакно будзе адставаць ад кастрыцы, а чорныя плямы ад валакна. Калі лён, заражаны іржою, хоць крышку перамочыцца, то валакно тагды зусім прападзе дзеля таго, што ў месцах, дзе ёсьць плямы, валакно страціць усякую моц. Калі-ж такі лён не дамачыць, то валакно будзе мець плямы і ня будзе адставаць добра ад кастрыцы.

Апрача ўсяго вышэйсказанага трэба ўважаць на тое, ці лён не перасох ад доўгай засухі. У такім выпадку лён завецца худым і яго кастрыца пры мачэньні доўгі час ня ломіцца. Такі лён павінен мачыцца даўжэй, пакуль кастрыца ня будзе ламацца бліжэй да таго канца, дзе была галоўка. Звычайна здаровы лён лічыцца вымачаным, калі кастрыца яго ломіцца на сярэдзіне сьцябла.

## Добрыя і кепскія расьліны-папярэднікі.

Практычныя гаспадары добра ведаюць, што адна і тая расьліна можа даць больш ці меншы ўраджай у залежнасьці ад таго, пасьля якое расьліны яе пасеем. З гэтага відаць, што ў гаспадарчых расьлінаў ёсьць добрыя і кепскія папярэднікі.

*Кепскія папярэднікі.* Кепскім папярэднікам можа быць кожная расьліна, калі яна сеецца па сабе. Выключэньнем з гэтага правіла ёсьць бульба і проса, якія добра ўдаюцца, сеяныя па сабе некалькі гадоў зраду. Таксама і жыта, сеянае па сабе, даўгі час ня вельмі абніжае ўраджай. Далей, кепскімі папярэднікамі для ўсіх расьлінаў ёсьць расьліны збажовыя, а з іх найгоршымі яравыя. З яравых ячмень ёсьць горшым папярэднікам, чым авёс.

*Добрыя папярэднікі.* Найлепшымі папярэднікамі, агулам кажучы, лічацца расьліны матыльковыя, як канюшына, люцэрна, сэрадэля, гарох, лубін, віка і інш. З матыльковых найлепшымі папярэднікамі зьяўляюцца шматгадовыя травы (канюшына, люцэрна). Бульба ёсьць добрым папярэднікам для ўсіх збажовых. Часта пасьля бульбы нельга сеяць жыта, але гэта з тае прычыны, што пасьля збору позьняе бульбы не застаецца часу, каб зямля адпаведна зьляглася, чаго вымагае жыта. Буракі зьяўляюцца трохі горшым папярэднікам ад бульбы. У сваю чаргу добрымі папярэднікамі для буракоў і бульбы ёсьць мак і лён.

Як паказваюць дадзеныя Віленскае дасьледчае льняное станцыі, лён можа быць добрым папярэднікам і для азімага збожжа, асабліва, калі пасьля лёну ідзе жыта, пагноенае хлеўным гноем у палавіннай колькасьці таго гною, якім звычайна гноіцца поле.

З вышэйпададзенага можна заўважыць, што расьліны, належачыя да аднае групы, прыкладам матыльковыя, не зьяўляюцца ўсе аднолькава добрымі папярэднікамі (канюшына ёсьць лепшым папярэднікам за гарох і віку). Прычына гэтага зьявішча тая, што адны расьліны маюць сільнейшыя і глыбей сягаючыя карані, а другія не. Расьліны, якія маюць добра разьвітыя карані, звычайна бываюць лепшымі папярэднікамі. Апрача таго, ня ўсе расьліны маюць аднолькавую здольнасьць распушчаць мінэральныя складнікі. Тыя расьліны, якіх карэньні патрапяць распусьціць найгорш распушчальныя мінэралы, лічацца лепшымі папярэднікамі. Прыкладам астатняй групы расьлінаў можа быць авёс, які ў параўнаньні з ячмянём мае куды лепш разьвіты карэнь і большую здольнасьць распушчаньня мінэралаў, а дзеля таго і лічыцца лепшым папярэднікам за ячмень.



цё—неперамо́жнае жаданьне заўладаць істотаю іншага полу — патрасло маё сэрца крыху раней: паўгодам сільных, хоць плятонічна чыстых, не скажу, каб надта ўжо прыемных, перажываньняў я заплаціў за яго. Заплаціў і разьлічыўся раз назаўсёды, бо гэткія рэчы не паўтараюцца. Віною ўсяго гэтага была Зінка, якая скончыла вуліцаю.

Веранікі Круцінскай (для мяне Веркі) я не кахаў. А ці любіў яе? Гэта—мусі так. Любіў, як любіць часам брат сястру сваю, любіў так, як гэта было.

А было цікава.

Па ўсіх пунктах Дзеньгораду параскіданы былі булачныя крамкі слаўнае, сярод усяе паўсотні тысяч жыхароў, пякарні Куца. Пра самога Куца рознае казалі. Усе ведалі, што гэта вялікі арыстакрат у мінулым, а казалі адзін аднаму, што гэты Куц—аматар прыгажэйшага полу: па ўсіх яго крамах таргавалі хлебам, у розных яго відах, маладыя дзяўчынкі, — і ўсе з клясычна прыгожымі, прывабнымі фігурамі ці хоць тварамі, як у мае Джыоконды. Плявузгалі нават, што ўсе яны нямінуча праходзілі праз... рукі Куца. Калі гэта так, дык ён запраўды быў шчасьлівейшы за турэцкага султана, тады яшчэ панаваўшага ў Стамбуле.

У аднэй з Куцавых крамак хлеб прадавала Верка, ад самага раньня да познага вечару. У крамцы гэтай, купляючы рэгулярна, за тры капейкі, тры булачкі кожны вечар, я і пазнаёміўся з Веркаю. Спачатку я быў для яе „капеечны чалавек“ — гэтак яна сама мяне празвала.

Пазьней, пазнаўшы маю поўную шчырасьць і абсолютную няўмеласьць маніць проста ў вочы, маніць так, каб і твар маладым не зачырванеўся нават, пазьней — Верка зьмяніла свой пагляд.

Усё часьцей ды часьцей іграла для мяне на яе поўненькіх шчочках усьмешка цудоўнай Монны-Лізы. Я, без памылкі, адчуў яе цёплае, чыста жаночае, — якога словамі і пераказаць нельга,— пачуцьцё. Можа гэта „Жанчына Працы“—невялічкая кніжка, якую я даў прачытаць ёй, зрабіла так? А можа купрынская „Яма“, даная пасьля? Можа талстоўскае „*Воскресеніе*“, можа „Жыцьцё Ісуса“ — Фрыдрыха Штрауса? А можа проста ўсе свае чары пушчала Верка ў ход, каб закахаць мяне ў сабе па вушы, не разумеючы зусім таго, што мой кумір—эфірныя жанчыны, а яе мілая мне душа апранена ў гэткае масыўнае, куртатае, нялюбае цела.

Калі мы гэтак пакрысе здружыліся, Верка першая вызначыла нашу рашучую сустрэчу: на чацьвёра вачэй, толькі мы і Бог — судзьдзя і сьведка найвышэйшы.

— Чаму вы ніколі мяне на спацыр не запросіце?... кніжнік, анахорэт!—спыталася раз Верка, надуваючы свае чырвоныя, як макаў цьвет, губкі.

— Выбачайце, Верачка, не дагадаўся, — адказаў я чырванеючы ад нечаканае дзявочае атакі.

— Дык праз пяць мінут я зачыняю гэту буду... пойдзем гуляць.

— Добра! Хоць раз займуся няпрывычным для мяне пустым праводжваньнем часу, — згадзіўся я з іроніяй.

— Эх, вы! селядзец мочаны!— адцяла Верка.

III.

Душная ліпнёвая ноч спушчалася над Дзеньгорадам. Цішыня. Прадмесьце зіхаціць яшчэ агнямі. Над Нёмнам зьвісае касматая пара. Гадзіньнік на паштовай вежы ўдарыў раз—чэцьверць дванаццатае. Рэдка сьвісьне манэўранны паравоз недалёкага ад нас вакзалу.

За Нёман, за горад ідзём мы з Веркаю палатном чугункі. Куды? Чаго? Я тады ня ведаў.. Нязручна трымаць пад руку кругленькую, на цэлую галаву меншую за мяне, Верку.

— Які з вас кавалер? З салдатамі толькі ходзяць гэткім гусячым шагам! — дапякае мяне дзяўчына.

Маўчу.

Раптам тон яе тоненькага голасу зьніжаецца, робіцца цішэйшым, зусім паважным:

— Глупства я кажу; кожны ходзіць так, як умее... Мы ўжо гэтулькі знаёмыя, што будзем лепш на *ты*.

Мне гэта падабаецца, а таму і адказваю таксама сур'ёзна:

— Верачка, мне ўсё роўна — шапка ня зьліняе, а ты-ж дзяўчына! Як я магу публічна казаць табе *ты*? Што пра нас падумае кожны дурань? Давай, зробім гэтак: тутака, сягоньня і ў юды, калі мы адны, будзем на *ты*, а пры людзях трымаймася прыстойнага мяшчанскага тону.

— Ды што людзі?—запярэчыла Верка, — хіба дружыць можна толькі з чалавекам свайго полу? Хай сабе чэшуць языкі.

— А нашто служыць для іх матар'ялам?—стаю я на сваім,—ты занадта... занадта для мяне... ну, гэткая... сымпатычная, ці як там, каб мог я пры людзях абходзіцца з табою за пані-брата. Ты нейкая не такая пустая, як іншыя. Я вельмі... паважаю цябе ..

— Хай будзе патвойму!—здалася Верка, за тваю шчырасьць я не пастыдалася-б пацалаваць цябе...

— Можна. Адбівацца ня буду... толькі тут, а ня ў крамцы, пры людзях,—жартам падхапіў я з трыумфам пераможніка.

*Краўцоў Макар.*

(Працяг будзе).

## Нямецкія войскі на аўстрыйскай граніцы

Зрыў конфэрэнцыі трох у Парыжы ў справе італа-абісінскага конфлікту вызваў у аўстрыйскіх колах сільны непакой.

Некаторыя газэты падчырківаюць небясьпеку адносна таго, што Нямеччына можа выкарыстаць міжнароднае палажэньне і напасьць на Аўстрыю.

Трывога гэтая павялічваецца пад уплывам чутак аб ваенных прыгатаўленьнях немцаў на аўстрыйска-баварскай граніцы. Так, прыкладам, горад Райхэнгаль атрымаў зусім нечакана нямецкі гарнізон. У многіх мясцах вырубаны пагранічныя лясы, у другіх— узмоцнена пагранічная стража.

Адначасна моцна завастрыўся тон нямецкай прэсы ў адношаньні да Аўстрыі.

У адказ на гэта віцэ-канцлер Штарэмбэрг забараніў аўстрыйскім спартовым саюзам прыймаць удзел у спартовых выперадках у Нямеччыне.

У дадзены момант вочы Вены скіраваны на Чэхаславаччыну, каторая, падобна Аўстрыі, устрывожана зрывам конфэрэнцыі трох. З вялікім зацікаўленьнем прынята тут паведамленьне аб нарадзе Бэнэша з Літвінавым у Марыенбадзе перад сабраньнем Малой Антанты. У тамтэйшых палітычных колах уважаюць, што Бэнэш паставіў рабром пытаньне аб абароне Чэхаславаччыны пры помачы Расеі ад нечаканасьцяў са стараны Нямеччыны.

Значна таксама ўзмацнілася раптоўна гітлероўская прапаганда ў Аўстрыі. Паліцыя ў Глундзене раскрыла тайную арганізацыю гітлероўскай баёвай ячэйкі. У Ляркіхэ арыштованы дэманстранты — гітлероўцы. У другіх пунктах таксама ўсілілася дзейнасьць гітлероўцаў. *Маецца ўражаньне, што зрыў парыжскай конфэрэнцыі закончыў у Аўстрыі пэрыяд палітычнага заціша і прабудзіў актыўнасьць аўстрыйскіх гітлероўцаў.*

## Разгром камсамолу у Сав. Расеі

Пражскае „Знамя Россіи" паведамляе, што з ленінградзкай камуністычнай партыі вылучаны ў апошні час 1859 асобаў, з каторых многія займалі відныя становішчы.

**З камсамолу выключана 3080 асобаў,** з каторых каля 1700 належала да гарадзкіх арганізацыяў Ленінграду. **1653 камсамольцы адпраўлены былі ў спэцыяльныя інстытуцыі „Лагеры Моладзі".** 660 размешчана па камандах працы „новостроек" Кіраўскага (Вятскага) і Паўночнага краёў. Зьнята 83% сэкрэтароў вытворчых камсамольскіх арганізацыяў у вокрузе і ўсе 100% сэкрэтароў вузаўскіх.

Па завочнаму прыгавору ваеннага трыбуналу Прыволжскага ваеннага вокругу **расстрэляна 17 камсамольцаў,** каторыя былі адпраўлены ў ссылку і недалёка ад станцыі Кінель пры спробе ўцечкі забілі трох стражнікаў.

### Забойства японскага генэрала у Токіо.

У першай палове жніўня быў забіты генэрал Нагата, адзін з найбольш уплывовых адзінак у японскім ваенным міністэрстве. Паводле чутак, генэрала забіў яго ад'ютант у міністэрскім габінэце. Факт гэты зрабіў моцнае ўражаньне ў палітычных колах Японіі, бо Нагата быў гарачым староннікам агрэсыўнай палітыкі ваеннага міністра Гаяшы. Нямецкае інформацыйнае бюро перадае з Токіо, што забойства, быццам, папоўнена ў сувязі з пэрсональнымі зьменамі на вышэйшых становішчах у японскай арміі.

„Таймс" па гэтаму поваду піша, што акт тэрору не дасягнуў свае мэты. Забойства Нагаты толькі ўзмоцніла намеры ген. Гаяшы зніштожыць палітычную заразу, якая падкопваецца пад ваенную дысцыпліну. Калі тры гады назад прыйшла эпідэмія палітычных забойстваў—сярод забітых было два прэм'еры і адзін міністар фінансаў — грамадзкая апінія як быццам не абуралася. Сымпатыі былі па старане маладых афіцэроў. Стараліся вытлумачыць іх праступак гарачым патрыётызмам.

Генэрал Гаяшы відаць ведае рыск, які ён на сябе бярэ, калі пачынае барацьбу з рухам (нацыянал-соцыялістычным), прадстаўляючым небясьпеку для арміі і для ўсяго будучага Японіі. Ен глядзіць на гэты рыск з вялікай адвагаю, пазбаўляючы камандных становішчаў афіцэроў, якія пастанавілі зрабіць з арміі прыладу для сваёй палітычнай барацьбы. Генэрал Нагата быў у гэтай барацьбе верным супрацоўнікам Гаяшы. Забойства выклікала вялікае абурэньне сярод арміі, бо яно прадстаўляецца грубым гвалтам ваеннай этыкі, як усякі напад жаўнера на свайго начальніка. Генэрал Гаяшы заявіў, што будуць зроблены ўсе высілкі, каб выясьніць глыбейшыя прычыны праступка і вярнуць армію да выпаўненьня яе належнага заданьня. Відаць, у гэтай справе па яго старане будзе ўся грамадзкая апінія, як у цывільным так і ваенным асяродзішчах.

## Пісьмо у рэдакцыю.

Паважаны Грамадзянін
Рэдактар!

Не адмоўце мне, як прыхаджаніну іжанскага прыходу, і ад імя прыхаджан таго-ж прыходу зьмясьціць у Вашай паважанай газэце адказ Язэпу Місюлю на пісьмо, зьмешчанае ў „Родным Краі" ад 20-га ліпня 1935 г.

Гр. Язэп Місюль ня мог выступаць ад імя прыхаджан, бо ён быў назначаны а. у. Яськовым на тымчасовае становішча царкоўнага старасты ў 1932 г. і таму няпраўда, што займае гэнае становішча 25 гадоў, бо толькі ўсяго 4 гады.

Ня мог гр. Місюль выступаць ад імя брацтва, бо сябры брацтва на гэта не давалі яму паўнамоцтва.

Няпраўдай зьяўляецца і тое, быццам, а. У. Яськовым нездаволены толькі прыхільнікі вуніі, бо якраз гэныя людзі баранілі ад вуніі.

У заканчэньне заяўляю, што стаяць у абароне а. У. Яськова тыя, каму нядорага праваслаўная вера.

*Смаленскі Валенцін*
студ. У. С. Б.

В. Грэлікі, 5/VIII 1935 г.

## У краі і заграніцай.

*Закупка Японіяй цынку.* Як даведываемся, японская металургічная прамысловасьць заказала ў цынкавых капальнях канцэрна Гішэ ў Сілезіі вялікшую партыю цынку вагою каля 10.000 тоннаў і вартасьцю ў 80.000 фунтаў стэрлінгаў.

*Кансэрвы з Львова ў Абісінію.* У апошні час у Львове мяса падаражэла на 50-100 проц. Гэта тлумачыцца павялічанай высылкай мясных кансэрваў у Англію і Абісінію.

Адна толькі львоўская фірма Рукера атрымала з Абісініі заказ на дастаўку 5 міл. банак мясных кансэрваў.

*Крымскія яблыкі.* У мінулым тыдні падпісаны дагавор між гуртаўнікамі фруктаў і савецкім торгпрэдствам у Варшаве аб дастаўцы ў Польшчу транспарту крымскіх яблыкаў. У канцы жніўня ў Гдыню прыбудзе 10 вагонаў яблыкаў. Яны будуць прадавацца па 1 зл. 60 гр. — 1 зл. 80 гр. за кілягрзм.

*Льготныя пашпарты ў Швэцыю і Эстонію.* Польскія турыстычныя бюры атрымалі кантынгэнты льготных заграпічных пашпартоў у Швэцыю і Эстонію. Пашпарт такі каштуе 150 зл. Апрача таго атрыманы кантынгэнт льготных пашпартоў у Вэнгрыю.

*Англія купляе параходы у Нямеччыне.* Англія купіла нядаўна ў Нямеччыне два парахода за 240.000 фунтаў. Усяго за апошнія паўгодкі Нямеччына прадала 25 параходаў ёмкасьці ў 53.000 тоннаў, у той час як за мінулы год было прададзена ўсяго два парахода на 7.700 тоннаў.

## Лясы ў Польшчы.

Ведама, што з Польшчы штогод вывозіцца шмат лесу заграніцу, пры гэтым за год высякаецца каля 62 тысячаў гэктараў лесу. Абліччана, што такім спосабам лясы за нейкіх 90 гадоў могуць быць зусім вынішчаны, бо-ж у Польшчы ня так шмат лесу, як гэта многа каму здаецца. Падлічэньні паказваюць, што лес займае у Польшчы 8 мільёнаў 322 тысячы гэктараў, што становіць 22 працэнты агульнага абшару дзяржавы. Меншы працэнт лясной паверхні маюць Францыя, Італія ды Іспанія. Затое іншыя дзяржавы Эўропы маюць шмат большы працэнт лесу:

Расея 62 працэнты, Фінляндыя 73 працэнты, Чэхаславаччына 33 працэнты, Нямеччына 27 працэнтаў і г. д. Як бачым, навет тыя краіны, куды вывозіцца лес з Польшчы прыкладам Нямеччына, маюць лесу ў сябе шмат больш. А робіцца гэта таму, што ў замежных краінах лес ня нішчыцца без патрэбы, бо-ж лясы апрача значэньня гаспадарчага маюць уплыў і на здароўе жыхарства чым больш лясоў, тым лепшае паветра, а разам з тым і людзеі здаравейшыя.



## Праўны куток.

**І. К. Гарадок.** У адказ на Вашае пісьмо падаем наступнае: Вы пішаце, што арэндуеце кусок зямлі ужо 13 гадаў, на якім пабудавалі хату. Высокасьць арэнды — 6 пудоў жыта ў год. Цяпер-жа па прычыне беднасьці ня можаце гэтай арэнды плаціць. Пытаецеся, ці ўласьнік можа вас шляхам суду высяліць і ці няма ў гэтым выпадку даўнасьці. Вось-жа даўнасьці у гэтым выпадку ня можа быць таму, што была зроблена умова. У выпадку, калі ўласьнік падасьць справу ў суд, то суд бязумоўна засудзіць, або належнасьць за арэнду, або высяленьне, ў залежнасьці што будзе прасіць уласьнік, — *дзеля недатрыманьня варункаў умовы.*

**В. К. Паставы**. У адказ на Вашае пісьмо падаем наступнае: Выдзяленьне дачок і радні з прычыны іх замужаства даконваецца вызначэньнем ім пасагу. З пасярод замужніх дачок толькі тыя ўважаюцца за выдзеленыя, каторыя ў падпісаных імі пасаговых актах дабравольна зракліся за сябе і за сваіх патомкаў далейшага ўдзелу ў спадку. Калі няма на пісьме доказу, што дачка, атрымаўшая пры жыцьці бацькоў пасаг, зраклася ўдзелу ў спадку, то яна не зьяўляецца пазбаўленай права ўдзелу ў астаўшайся па іх маемасьці. Дачка тады атрымоўвае належную ёй частку па адлічэньні пасагу як у грашах, так і ў іншай маемасьці. Калі-ж пасаг складаецца выключна з маемасьці нярухомай, або ў часьці з рухомай, а часьці з нярухомай, тады пасаговыя акты павінны быць устаноўленыя нотарыяльным шляхам, калі-ж пасаг абыймае выключна маемасьць рухомую, то пасаговыя акты могуць быць устаноўлены спосабам прыватным, г. з. бяз нотарыюса.

**О. Н. Залесье каля Смаргонь**. У адказ на Вашае пісьмо падаем наступнае:

Паводле закону кожны мае права на грунтах, зьяўляючыхся яго ўласнасьцю, або знаходячыхся ў яго карыстаньні, затрымаць чужую жывёлу, якая прычыняе або можа на гэтым грунце прычыніць шкоду спашаньнем травы, або іншым спосабам. Уласьнік мае права затрымаць на сваім грунце гусі, куры, і качкі. Права гэтае мае ня толькі ўласьнік грунту, але і асоба ад яго залежная, як дзеці, старажы, слугі і г. д. Калі паміж гаспадаром і ўласьнікам затрыманай жывёлы ня дойдзе да паразуменьня, тады ўласьнік жывёлы абавязаны на жаданьне гаспадара грунту, на якім затрымана жывёла, заплаціць яму за прычыненыя страты, або паводле таксы, або ў выпадку, калі на гэта гаспадар грунту ня згодзіцца, паводле ацэны прычыненых страт, шляхам паданьня справы ў суд. Уласьнік затрыманай жывёлы абавязаны зьвярнуць кошты корму затрыманай жывёлы. Асоба, якая затрымала жывёлу, абавязана яе карміць да часу звароту ўласьніку.

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.